# Са святам вызвалення Беларусі!


**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае


**№27(691) 4 ліпеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**






Рыбацкая ўдача Віктара Калбасіча.

Патэлефанаваў з вёскі Падгаі, што пад Глыбокім, калега па працы Віктар Калбасіч, адмысловец у аматарскай рыбнай лоўлі. Маўляў, злавіў на спінінг шчупака на возеры Чачалі. Прыязжай, сфатаграфуй – наўрад ці хто-небудзь на Чачалёўскім возеры вылоўліваў большую асобіну. Сорак хвілін з ім змагаўся, шчупак цягаў драўляную лодку, бы той буксір, амаль па ўсім возеры. І ўсё ж здабыў.

Адкінуўшы ўсе справы, паехаў. Сапраўды, рыбацкая ўдача ўразіла – азёрны драпежнік кілаграмаў пад дзесяць.

*Фота Яўгена Самсонава.*

## Запрашаем у Лучай 7 ліпеня.

Падзякаваў Богу за апеку над нашай краінай праз Маці Божаю Будслаўскаю. Пасля святой Імшы запрашаем таксама на канцэрт беларускай спявачкі Таццяны Беланогай. Пачатак а 16:30.

*кс. Мікалай Лінскі.*

Браслаўскі раён

# Насустрач пасажырам

■ Кастусь Александровіч

**Большасць суайчыннікаў цяпер паранейшаму аддаюць перавагу паездкам на больш танным чыгуначным транспарце ўнутры краіны і за мяжу.**

Аднак шмат расчараванняў многім жыхарам Браслаўскага і суседніх раёнаў прынесла рашэнне кіраўніцтва Беларускай чыгункі адмяніць рух папулярнага вагона бесперасадачнага руху "Друя-Мінск". Многія жыхары глыбінкі, студэнты і камандзіровачныя здаўна ім карысталіся і сталі масава звяртацца з просьбамі вярнуцца да ранейшай схемы маршрутаў. Кіраўніцтва пасажырскай службы БЧ прыслухалася да людзей і пайшло насустрач пасажырам. З 19 ліпеня сёлета, праўда, па летняму графіку перавозак гэты маршрут зноў будзе дзейнічаць, а праязныя білеты са сталіцы да Друі, Мёр, Шаркаўшчыны, Варапаева і іншых станцый можна набываць, як і на іншыя беларускія цягнікі, з дапамогай Інтэрнэта. У гэтым рэгіёне парадавала пасажыраў і адкрыццё руху дадатковага хуткаснага дызель-цягніка "Полацк-Паставы-Полацк". Вось ужо некалькі тыдняў ён курсіруе напрыканцы працоўнага дня кожную пятніцу і па нядзелях у зручны для пасажыраў час. Па гэтым маршруце да канечнага пункта прызначэння можна дабрацца за 3 гадзіны, а хуткасны дызель курсіруе таксама і ў святочныя і перадсвяточныя дні, калі павялічваецца пасажырапаток. У абласны цэнтр цяпер можна даехаць з Мінска і дзённым поездам № 612 "Баранавічы-Віцебск", а дагэтуль людзі ездзілі ў нязручны начны час. Дарэчы, у гэтым годзе ў пачатку лета беларускія цягнікі ўжо перавезлі пасажыраў на 13 % болей, чым год назад.

Сенненскі раён

# Паліва па графіку

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам і сярод беларусаў уласны аўтамабіль перастаў быць прадметам раскошы, а стаў з'яўляцца сродкам паўсядзённага жыцця, без якога цяжка абысціся.**

Аднак жыхарам аддаленых населеных пунктаў, у адрозненне ад гараджан, цяжэй вырашаць пытанні з запраўкай сваіх аўто. Першы крок у гэтым накірунку аб'яднанне "Беларусьнафта" зрабіла на тэрыторыі Сенненскага раёна, дзе адкрылі першую ў Беларусі перасоўную аўтазаправачную станцыю. Незвычайная АЗС на калёсах размясцілася паблізу гарпасёлка Багушэўск побач з ажыўленай трасай Віцебск-Гомель. Па ўстаноўленаму графіку сюды завозяць на спецыяльную пляцоўку ўсе віды бензіна і дызельнае паліва. Яе спраектавалі спецыялісты сталічнай фірмы "НПК", а само абсталяванне вырабілі па заказе на трох заводах у Расіі. На ажыццяўленне ўнікальнага на прасторах СНД праекта спатрэбілася ад задумы амаль 3 гады. На перасоўнай АЗС усё зроблена, каб было зручна аўтамабілістам, бяспечна і не парушаліся экалагічныя нормы. Як сюды дабрацца, вадзіцелям падкажуць спецыяльныя дарожныя знакі. Дарэчы, Віцебшчына стала першай у краіне, дзе пачаў ажыццяўляцца гэты пілотны праект. Аналагічная перасоўная АЗС будзе дзейнічаць таксама і ў Бешанковіцкім раёне ля вёскі Астроўна, паблізу якой праходзіць таксама ажыўленая магістральная траса Мінск-Віцебск. Паліва па графіку неўзабаве пачнуць дастаўляць у глыбінку на Брэстчыне, а потым і ў іншыя куткі краіны.

Ушацкі раён

# На аўто зваліўся ... экскаватар

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэты цёплы перыяд года інтэнсіўнасць руху на беларускіх дарогах рэзка ўзрастае, а з ёй і колькасць розных аварый.**

На тэрыторыі Ушацкага раёна днямі раніцай перад пачаткам працоўнага дня зафіксавалі навогул рэдкае дарожна-транспартнае здарэнне. Паблізу вёскі Чарствяды на дарозе Ушачы – Бешанковічы – Сянно на сваім легкавым аўтамабілі "Suzuki Alto" спакойна ехала жыхарка Наваполацка. Якое было здзіўленне і шок у жанчыны, калі на яе машыну раптам зваліўся … вялізны экскаватар Э-304. Гэта тэхніка належыць мясцоваму прадпрыемству меліярацыйных сістэм і перавозілася на трале на адзін з аб'ектаў. Аднак, верагодна, была не зафіксавана, як патрабуецца для такога роду буйнагабарытных перавозак. У выніку ДТЗ абодва ўдзельнікі сутыкнення зваліліся ў кювет. На шчасце, жанчына-кіроўца засталася жывая. Але пасля прыбыцця па выкліку на месца аварыі міліцыі і "хуткай дапамогі" спатрэбілася яшчэ і дапамога спецыялістаў райаддзела МНС. Толькі з дапамогай спецыяльнага аварыйна-выратавальнага інструмента навапалачанку дасталі са сплюшчанага салона іншамаркі. Са шматлікімі траўмамі і пераломамі жанчыну даставілі ў мясцовую райбальніцу. Па дадзеным факце пачалася праверка, і калі віна прадпрыемства будзе відавочнай, яно па добраму рахунку павінна кампенсаваць кошт лячэння і матэрыяльны ўрон ад пашкоджання легкавушкі. Дарэчы, незадоўга перад гэтым толькі ўжо ля Бешанковіч, позна вечарам сутыкнуліся на трасе лоб у лоб дзве легкавушкі і іх вадзіцеляў з траўмамі прыйшлося таксама выцягваць з пашкоджаных салонаў аўто.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 04.07.13 | | | | Пятніца 05.07.13 | | | | Субота 06.07.13 | | | | Нядзеля 07.07.13 | | | | Пнд.08 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +21 | +26 | +22 | +15 | +21 | +26 | +24 | +16 | +23 | +25 | +22 | +17 | +19 | +23 | +21 | +16 |
| Ціск | 752 | 753 | 753 | 753 | 753 | 754 | 753 | 753 | 753 | 754 | 753 | 754 | 755 | 756 | 756 | 756 | 757 |
| Вільготнасць | 90 | 70 | 43 | 69 | 96 | 85 | 47 | 73 | 94 | 73 | 58 | 73 | 88 | 70 | 48 | 63 | 81 |
| Вецер м/сек | 1 | 1 | 2 | 3 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 |

# Аб самым надзённым

## НАВАТ ПРЫ ТАННЫХ ГАЗЕ І НАФЦЕ ДЫРЭКТЫЎНАЯ АЙЧЫННАЯ ЭКАНОМІКА СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ НЕКАНКУРЭНТНАЗДОЛЬНАЙ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Аднак вечна балансаваць вось так не атрымаецца, павышаць патрэбна якасць беларускіх тавараў, каб яны былі больш канкурэнтназдольнымі. Нават беларускі лідар назваў пытанне якасці галоўным на парадку дня, а калі гэтага не будзе, то "сродни преступлению".**

З маленства запомнілася, як савецкім людзям штодзень тлумілі галовы аб тым, што дзікі і варожы нам Захад загнівае, а прывід камунізму ўжо блукае па Еўропе. Зараз на двары ўжо новае стагоддзе, іншыя эканамічныя рэаліі, а мы жывём ужо ў сваёй незалежнай краіне, арыентуемся на камуна-рынкачны Кітай і спрабуем ісці сваім шляхам. Вось толькі зараз на ўсіх узроўнях пачалі прызнаваць абвастрэнне эканамічных праблем і сталі складаць графікі разгрузкі перапоўненых складоў беларускіх заводаў і фабрык.

З іншага боку хоць крыху радуе, што другі месяц запар не назіраецца такога бурнага росту цэн, як у пачатку года сёлета. Інфляцыю ў маі-чэрвені ўдавалася стрымаць ніжэй адзнакі 1 %, патаннелі гароднiна, шэраг мясапрадуктаў, рыба, алей, крупы, кандытарскія вырабы. Аднак грозны Дзяржкантроль Беларусі зафіксаваў у пачатку лета, што нашы прадпрыемствы не могуць прадаць нават тую прадукцыю, якая карыстаецца попытам, а замест рэальнай разгрузкі складоў толькі ствараюць ілюзію вырашэння праблем.

З мэтай пошукаў выхаду з крызіса ў сталіцы правялі чарговую нараду па пытаннях развіцця беларускай індустрыі і рэалізацыі да канца 2013 года са складоў нашай прадукцыі. Па традыцыі ў нас узмацнілі адміністрацыйны ціск на ўрад, чыноўнікаў на месцах і на дырэктарскі корпус. А падстаў для трывог шмат і задумацца ёсць над чым. Па выніках працы за 4 месяцы Беларусь страціла ў экспартных пастаўках 4 млрд. долараў, хоць былі ўкладзены значныя сродкі ў мадэрнізацыю прамысловых прадпрыемстваў.

Пра гэтым нашых вытворцаў, сапраўды, забяспечваюць з дапамогай суседкі Расіі самым танным у Еўропе газам ( у 2,5 разы танней, чым у ЕС) і напалову таннейшай, чым для еўрапейцаў, нафтай. Здавалася б, жыві і радуйся гэтаму, такія выдатныя ўмовы стварaны. Аднак не будзем забываць, што ў адрозненне ад суседзяў, у Беларусі дзейнічае яшчэ механізм так званага субсідзіравання вытворцамі часткі расходаў насельніцтва за ацяпленне і за спажыванне электраэнергіі. У выніку, да прыкладу, польскія фірмы за 1 кВт-гадзіну плоцяць 11,8 цэнта (беларускія – 13,73 цэнты), а самі палякі за асвятленне пакояў 21,3 цэнта, калі беларусы да нядаўняга павышэння такіх тарыфаў толькі 2,56 цэнта за 1 кВт-г.

У выніку быццам клапоціліся аб людзях, а сама сістэма "Белэнерга" З апошнія гады ледзь звадзіла канцы з канцамі, без крэдытаў не магла разлічыцца за расійскі прыродны газ. Рэальны сектар эканомікі бярэ на сябе дадатковыя расходы і да таго ж неэфектыўна спажывае энерганосьбіты, бо тэхналогіі састарэлыя і энергазатратныя. Атрымоўваецца быццам замкнутае кола, а ў 7 з 8 беларускіх прамысловых міністэрстваў і буйных канцэрнаў ужо на складах цяжка знайсці свабоднае месца для гатовых тавараў, якія не знаходзяць спажыўцоў.

Па розных прычынах сёлета экспарт нашых грузавых аўтамабіляў, самазвалаў, прыцэпаў і спецаўтамабіляў скараціўся ў 2,1 разы. У цэлым гэта складала паўтара месяца працы толькі на склад, альбо на 3,3 трлн. рублёў (380 млн. долараў). Неліквідным таварам забіты і цяпер склады прамысловых прадпрыемстваў іншых галін беларускай эканомікі. У многіх вытворцаў стаў назірацца дэфіцыт абаротных сродкаў, што, як вядома, у далейшым вядзе да поўнага спынення іх дзейнасці. У ліку самых праблемных акрамя Міністэрства прамысловасці яшчэ і сам Мінск, Віцебская, Магілёўская і Гомельская вобласці, якія правалілі рост рэгіянальнага валавага прадукту.

Якое ж выйсце з гэтай няпростай сітуацыі? У нас кіраўніцтва спадзяецца, што праблема сама неяк вырашыцца найперш за кошт росту тавараабароту з Расіяй, і што пасля водпускаў расіяне павялічаць свой унутраны попыт і будуць актыўней закупляць нашы тавары. Магчыма, нешта яшчэ ўдасца нам прадаць і на новых замежных рынках. Нейкую частку прадукцыі распіхнуць унутры самой Беларусі і тым самым яшчэ на некаторы час падтрымаюць на плыву айчынных вытворцаў.

Аднак вечна балансаваць вось так не атрымаецца, павышаць патрэбна якасць беларускіх тавараў, каб яны былі больш канкурэнтназдольнымі. Нават беларускі лідар назваў пытанне якасці галоўным на парадку дня, а калі гэтага не будзе, то "сродни преступлению". Вастрыню праблемы даручана вырашыць персанальна вядомым людзям і асабіста цяпер Мясніковіч адказвае за разгрузку складоў МАЗа. Бліжэй да восені і да наступлення халадоў пабачым, ці ўдасца нам выбрацца з няпростай эканамічнай сітуацыі.

## Дзень за днём

**Рост беларускай эканомікі ў пачатку лета абваліўся да 1,1 %, вытворчасць прамысловай прадукцыі скарацілася на 10,5 % у параўнанні з мінулым годам. Сітуацыя ў беларускай эканоміцы пагаршаецца каторы месяц запар. За паўторную язду на падпітку ў Беларусі ўжо восенню могуць увесці канфіскацыю аўтамабіляў і да 10 гадоў турмы за такія ДТЗ з гібеллю людзей. Капітальнага рамонту патрабуюць ужо 80 % дарог краіны. Міліцыя сталіцы пачала вышук 250 юнакоў, якія ўхіліліся ад веснавога прызыву на ваенную службу. Па ўзроўні разводаў наша краіна выйшла на 2-е месца ў свеце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Як толькі войскі рэжыму Б. Асада ўжылі хімічную зброю, кіраўніцтва ЗША пачало пастаўкі ўзбраення для сірыйскіх паўстанцаў, на такі крок пайшлі Англія з Францыяй.

**Егіпет.** Прэзідэнт Мухамед Мурсі загадаў закрыць пасольства краіны ў Дамаску, спыніць дыпламатычныя адносіны з Сірыяй, запатрабаваў ад руху “Хэзбалах” пакінуць Сірыю.

**Косава.** Незалежнасць краіны з лютага 2008 года прызнала ўжо сотая па ліку дзяржава ў свеце Йемен, з гэтым фактам цяжка пагадзіцца ўладам суседняй Сербіі.

**Бельгія.** Для Еўрасаюза важны партнёр Беларусь, як заявіла глава прадстаўніцтва ЕС у РБ Майра Мора, але нельга мадэрнізаваць эканоміку без мадэрнізацыі ўсяго грамадства.

**Нікарагуа.** Кітайская кампанія з Ганконга атрымала канцэсію на пабудову праз краіну альтэрнатыўнага Панамскаму канала даўжынёй 286 км, аб’ём інвестыцый 40 млрд. $.

**Балгарыя.** Новы, 2-гі па ліку новы мост на рацэ Дунай даўжынёй 1,8 км звязаў краіну з суседняй Румыніяй, палову сродкаў на ўзвядзенне (141 млн. еўра) выдзеліў Еўрасаюз.

**Расія.** У адкрыты доступ у Інтэрнет Расархіў выклаў на сайце “Дакументы савецкай эпохі” 400 тысяч старонак з фонду Іосіфа Сталіна і дакументаў Палітбюро ЦК КПСС.

**Ірак.** Галоўны нафтаправод краіны “Кіркук-Сейхан” прыйшлося некалькі разоў спыняць працу з-за атак тэрарыстаў, але ўрад прыняў праграму рэзкага росту здабычы нафты.

**Чэхія.** У будынках урада, шэрагу міністэрстваў краіны і ў мэрыі Прагі прайшлі вобыскі і было арыштавана некалькі высокапастаўленых чыноўнікаў за злоўжыванні ўладай.

**Іран.** Амаль 37 млн. іранцаў на прэзідэнцкіх выбарах новым кіраўніком краіны абралі ўмеранага рэфарматара, доктара навук Хасана Раўхані з надзеяй на паляпшэнне жыцця.

**Украіна.** Украінская апазіцыя аб’ядналася і вылучыла сваім адзіным кандыдатам на прадстаячых прэзідэнцкіх выбарах 2015 года экс-прэм’ера Юлію Цімашэнка.

**Нарвегія.** Краіна стала першай у Еўропе, хто стане прызываць жанчын з 2015 года на абавязковую ваенную службу, з 1976 года яны служаць там па жаданні (10 % арміі).

**Грэцыя.** Многіх грэкаў і жыхароў ЕС абурыла рашэнне ўрада краіны спыніць вяшчанне дзяржаўнага радыё і тэлебачання ERT, звольніць 2,5 тысячы яго супрацоўнікаў.

**Расія.** Праслаўлены касманаўт А. Лявонаў заявіў, што яго калега Юрый Гагарын загінуў з-за неасцярожнага манеўру другога самалёта-знішчальніка Су-15 у зоне палётаў.

**Японія.** Ва ўзросце 116 гадоў пайшоў з жыцця старэйшы жыхар Зямлі японец Дзіроэмоі Кімура, гэта пачэснае званне перайшло да яго суайчынніцы, 115-гадовай Місао Акаве.

# Для сямейных скандалістаў уводзіцца новая прафілактычная мера — ахоўнае прадпісанне



■ Сяргей Каралевіч, БелаПАН

**Ім забароняць кантакты з ахвярай, у тым ліку па тэлефоне, а таксама наведванне ахвяры і высвятленне яе месцазнаходжання.**

У Беларусі ўводзіцца новы інструмент прафілактычнай працы — вынясенне грамадзяніну ахоўнага прадпісання. Адпаведнае палажэнне прадугледжана ў законапраекце «Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў», прынятым дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў на пасяджэнні 28 чэрвеня.

Як паведаміў намеснік генеральнага пракурора Аляксандр Лашын, ахоўнае прадпісанне будзе прымяняцца «ў дачыненні да асоб, якія ўчынілі шэраг правапарушэнняў на глебе сямейных скандалаў». Такім асобам будуць забаронены зносіны з ахвярай, у тым ліку па тэлефоне, а таксама наведванне ахвяры і высвятленне яе месцазнаходжання. Выносіцца ахоўнае прадпісанне будзе на тэрмін ад трох да трыццаці сутак.

Лашын паведаміў, што законапраект прадугледжвае меры агульнай прафілактыкі правапарушэнняў і меры індывідуальнай прафілактыкі правапарушэнняў. У межах агульнай прафілактыкі дакументам прадугледжваецца парадак распрацоўкі комплексных праграм па прафілактыцы правапарушэнняў мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі. Гэтыя рэгіянальныя праграмы павінны забяспечваць правядзенне мерапрыемстваў, скіраваных на прадухіленне насілля ў сям’і.

Законапраект таксама дэталізуе працэдуру правядзення прафілактычнай гутаркі, прадугледжвае абавязковы рэгулярны ўдзел грамадзян, якія стаяць на прафілактычным уліку, у групавых прафілактычных мерапрыемствах.

Лашын адзначыў, што законапраект закліканы «прапагандаваць пазітыўныя жыццёвыя каштоўнасці, аказваць падтрымку асобам, якія апынуліся ў небяспечным сацыяльным становішчы».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па распараджэнні прэм’ер-міністра РБ М. Мясніковіча фермерскім і асабістым прысядзібным гаспадаркам вярнулі права самастойнага забою дамашняй жывёлы.

**Тураў.** На мясцовым малочным камбінаце пачалі выпуск па італьянскай тэхналогіі мяккіх і паўцвёрдых сыроў “Мацарэлла” да 32 тон у суткі, у канцы года выпуск дасягне да 50 тон.

**Мінск.** Восенню чакаецца, як сказаў расійскі пасол у РБ А. Сурыкаў, падпісанне дамовы аб стварэнні холдынга МАЗ-КамАЗ з парытэтным удзелам абодвух бакоў у праекце.

**Абчак.** У пасёлку ў 10 кіламетрах ад Мінска ў 2014 годзе, на пляцоўках завода фірмы “Юнісон”, пачнецца зборка да 4-7 тысяч штогод легкавых аўтамабіляў Opel Corsa двух версій.

**Клімавічы.** За вымаганне хабару ў грамадзяніна РФ у суме 0,5 мільёна долараў 11 гадоў турмы атрымаў экс-начальнік раённага аддзела міліцыі з канфіскацыяй нажытай маёмасці.

**Ветка.** Супраць былога кіраўніка раёна распачалі крымінальную справу, экс-старшыня раённага выканкама назначэнец “вертыкалі” падазраецца ў махінацыях з зямельнымі ўчасткамі.

**Гродна.** На буйным рынку “Паўднёвы” прайшла стыхійная забастоўка 2 тысяч прадпрымальнікаў супраць увядзення дарагакаштуючага тэхрэгламенту Мытнага саюза.

**Брэст.** Тралейбусны парк абласнога цэнтра папоўніўся першымі трыма машынамі на ўласным ходзе, яны могуць ездзіць у самыя аддаленыя раёны і без кантактнай сеткі.

**Бабруйск.** Да свайго 45-годдзя дзетсад-яслі № 26 атрымаў адзін з першых у краіне двухпавярховы ФАК з басейнам, спартзалай, трэнажорамі, кабінетам масажу для дзяцей.

**Хойнікі.** Тэрыторыя раёна моцна пацярпела ад урагану з навальніцай, а 72-гадовая жыхарка вёскі Клівы атрымала цяжкія траўмы, калі на яе дом звалілася вялізнае дрэва.

**Шклоў.** Пенсіянера з райцэнтра пасля сумеснай п’янкі зарэзалі ў лесе ля вёскі Гуркавішча і спалілі ў яго аўтамабілі трое маладых хлопцаў, з іх двое ва ўзросце 16 гадоў.

**Бяроза.** Медыкі зафіксавалі ў раёне ўспышку клешчавога энцэфаліту, у бальніцу трапілі 6 жыхароў, калі выпілі казінае малако, жывёлін пакусалі кляшчы, ад іх пацярпелі шмат дзе.

**Курапаты.** Мінскі райвыканкам стварыў рабочую групу па добраўпарадкаванні і доглядзе гэтай гісторыка-культурнай мясцовасці, дзе ва ўрочышчы знішчылі сталіністы шмат людзей.

**Чэрвень.** Суд раёна пакараў 3 гадамі турмы дырэктара аздараўленчага лагера на базе мясцовай СДЮШАР за халатнасць, у выніку якой патануў у вадаёме адзін з дзяцей.

**Мінск.** Фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўніўся ўнікальным кніжным выданнем XVII стагоддзя – кнігай К. Семяновіча “Вялікае майстэрства артылерыі” на нямецкай мове.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За тры віды сваёй прадукцыі ААТ “Малако” атрымала Гран-пры па выніках усенароднага конкурсу “Чэмпіён смаку” ў намінацыі “Спажывецкая ацэнка – якасць”.

**Бешанковічы.** На мясцовым прадпрыемстве “Белкатламаш” асвоілі выпуск новых катлоў магутнасцю 2 Мвт па выпрацоўцы цяпла і электраэнергіі са шчапы дрэў і торфу.

**Віцебск.** Абласны цэнтр стаў пераможцам конкурсу “Лепшы горад (раён) і вобласць для бізнесу ў Рэспубліцы Беларусь”, у гэтым сектары тут занята 41 тысяча чалавек.

**Ушачы.** У раёне запланавалі сёлета правесці рэканструкцыю 9 малочных ферм, аднак з-за адсутнасці сродкаў у гаспадарак работы пачалася пакуль толькі на 4-х такіх аб’ектах.

**Віцебск.** На плошчы каля ратушы на Дзень горада так і не ўстанавілі, як абяцалі, бронзавы конны помнік князю Альгерду, хоць пастамент для яго быў зроблены яшчэ ў 2011 годзе.

**Паставы.** Літоўская фірма “Narjanta” дамовілася з ААТ “Паставымэбля” аб пастаўках ацыліндраваных брусоў для ўзвядзення ў горадзе Купішкіс арыгінальнага кафэ з дрэва.

**Мёры.** У раёне правялі суботнік, усе заробленыя людзьмі грошы былі пералічаны на завяршэнне будаўніцтва новай раённай бальніцы, у якой ідуць аддзелачныя работы, мантаж каналізацыі.

**Полацк.** Мясцовы дзяржаўны універсітэт і Наваполацкі палітэхнічны каледж сталі пунктамі тэсціравання для моладзі рэгіёна, усяго на Віцебшчыне падалі заяўкі на ўдзел у тэсціраванні 34 829 чалавек.

**Докшыцы.** Падчас вызнога туру па вобласці больш 40 беларускіх пісьменнікаў наведалі мемарыяльны комплекс спаленых вёсак “Шунеўка” і музей народнай славы ў Бягомлі.

**Глыбокае.** Падчас зварачных работ малады жыхар раённага цэнтра падпаліў па неасцярожнасці іншамарку свайго знаёмага, справіцца з полымем удалося толькі выкліканым пажарным.

**Віцебск.** У адным з будынкаў па праспекце Фрунзе пачаліся будаўніча-мантажныя работы для размяшчэння экспазіцый тут унікальнага ў Беларусі музея прыватных калекцый.

**Полацк.** Мясцоваму аўтапарку № 2 не хапае для працы ўжо 24 вадзіцелі аўтобусаў, па вобласці зараз свабодныя 469 такіх вакансій, прафесія кіроўцы паўсюдна найболей запатрабаваная.

**Дубdroўна.** На рацэ Днепр ўтапіўся 9-гадовы хлопчык, які пайшоў на рыбалку з дзедам і загінуў у вадзе, калі адплыў далёка ад берага, пакінуты без нагляду дарослых.

**Лепель.** Абласны мастацкі савет зацвердзіў макет помніка змеяпадобнай істоты Цмока, персанаж міфалогіі з’явіцца на беразе мясцовага возера на Дзень горада 14 верасня.

**Віцебск.** Былога паўабаронцу КІМа, беларускага футбольнага спецыяліста Леаніда Кучука прызначылі галоўным трэнерам адной з багацейшых каманд суседняй Расіі - “Лакаматыў” (Масква).

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Самае чыстае паветра ў краіне – у Хоцімскім раёне, а ў Віцебскай вобласці – у Шаркоўшчынскім

**На кожнага жыхара Наваполацка летась прыходзілася 636 кг забруджвальных рэчываў.**

**Белстат склаў рэйтынг раёнаў краіны па колькасці выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра. Агулам летась было выкінута 433 тысяч тон. Пры гэтым яшчэ 2,7 мільёна тон было абясшкоджана.**

Сярод самых брудных раёнаў перадусім тыя, дзе ёсць буйная прамысловасць. Наперадзе Полацкі раён, "дзякуючы" нафтаперапрацоўчаму заводу ў Наваполацку.

У разліку на кожнага жыхара Наваполацка ў паветра летась былі выкінутыя 636 кілаграмаў забруджвальных рэчываў!

А вось найлепш дыхаецца ў Хоцімскім раёне. Летась тут было выкінута ўсяго 100 кг забруджвальных рэчываў.

**Раёны з самым брудным паветрам (тысяч тон забруджвальных рэчываў):**

1) Полацкі (71,3)
2) Мазырскі (38,3)
3) Мінскі (33,8)
4) Гродзенскі (16,8)
5) Гомельскі (14,4)
6) Жлобінскі (13,1)
7) Чашніцкі (10,0)
8) Нясвіжскі (8,2)
9) Ваўкавыскі (7,6)

**Раёны з самым чыстым паветрам (тысяч тон забруджвальных рэчываў):**

1) Хоцімскі (0,1)
2) Ганцавіцкі (0,2)
3) Шаркоўшчынскі (0,2)
4) Ельскі (0,2)
5) Лельчыцкі (0,2)
6) Нараўлянскі (0,2)
7) Дзятлаўскі (0,3)
8)Кругляўскі (0,3)
9) Чэрыкаўскі (0,3)

*Ягор Марціновіч*

# Узровень афіцыйнага беспрацоўя ў Беларусі на канец мая склаў 0,5% ад эканамічна актыўнага насельніцтва

**Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец мая 2013 года склаў 0,5% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец мая 2012 года — 0,6%). Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў прэсслужбе Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі.**

У эканоміцы краіны ў студзені—маі 2013 года было занята 4 млн. 538,2 тыс. чалавек, што на 1,1% менш, чым у студзені-маі 2012 года.

Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец мая 2013 года склала 23,9 тыс. чалавек, што на 19,4% менш, чым на канец мая 2012 года, і на 7% менш, чым на канец красавіка 2013 года.

Арганізацыямі краіны (без малых і мікраарганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у студзені-маі 2013 года прынята на працу 305,2 тыс. чалавек, у тым ліку на дадаткова ўведзеныя працоўныя месцы — 17,2 тыс. чалавек, звольнена па розных прычынах 349,3 тыс. чалавек. З агульнай колькасці звольненых 6,8% было звольнена за прагул і іншыя парушэнні працоўнай дысцыпліны, 1% — у сувязі са скарачэннем колькасць або штату работнікаў, ліквідацыяй арганізацый.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Ці хочаце Вы папрацаваць у германскім парламенце?

**Германскі Бундэстаг і тры ўніверсітэты г. Берліна штогод даюць магчымасць прыкладна 120 маладым людзям з 28 краін на працягу пяці месяцаў пазнаёміцца з працэсам прыняцця палітычных рашэнняў у Германіі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прапануоўваецца выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў, якія цікавяцца палітыкай і жадаюць актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці сваёй краіны. Падчас 15-тыднёвай стажыроўкі ў аднаго з дэпутатаў Бундэстага стыпендыяты змогуць атрымаць практычны досвед у сферы парламенцкай дзейнасці.

Сярод патрабаванняў да стыпендыятаў: узрост да 30 гадоў, скончаная вышэйшая адукацыя і вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

**Пачатак стажыроўкі: 1 сакавіка 2014 г.**

Заяўкі прымаюцца ў Пасольстве Германіі ў Мінску да 31 ліпеня 2013 г.

Больш падрабязную інфармацыю Вы знойдзеце на сайце

Германскага Бундэстага **www.bundestag.de/IPS**

і Пасольства Германіі ў Мінску **www.minsk.diplo.de**

*УНН 101166185*




Турыстычная каманда Глыбоцкага УП ЖКГ.

# Прайшоў раённы турыстычны злёт над Шошай

■ Яўген Самсонаў

Няхай зайдросцяць працоўныя калектывы Глыбоччыны, каму не пашчасціла пабываць 21-22 чэрвеня ў вусці рэчкі Шошы на раённым турыстычным злёце. Аўра добразычлівасці, радасці, весялосці, сапраўднага спартыўнага задору вітала паўсюдна.

Галоўнае – не перамога, а ўдзел, такі быў дэвіз спаборніцтваў, але барацьба была ўпартай і напружанай. Нягледзячы на спёку, амаль цэлы дзень змагаліся валейбалісты. Калі лідар, каманда ГЭС, вызначылася ўжо ў сярэдзіне туніру, якая абыграла мацнейшыя каманды, то да апошняй партыі званне прызёраў аспрэчвалі валейбалісты ЖКГ, Дзвінскай эксперыментальнай лясной базы і МКК. Вынік – ва ўсіх 10 ачкоў – паказчык на партыях даў перавагу камунальнікам, а трэцяе месца ляснікам. Ды і ва ўсіх астатніх відах спартыўнай і конкурснай праграмы турыстычнага злёту азарт спаборніцтваў не спадаў. Пераможцы, сціпла ўсміхаючыся, жартавалі, маўляў прабачце, так атрымалася, а праіграўшыя з усмешкай віншавалі мацнейшых.



Спаборніцтвы па перацягванню каната.

Турзлёт – свята маладосці, задору, спартыўнага азарту, нягледзячы на ўзрост удзельнікаў. Гады не перашкода – галоўнае быць маладым у душы. І гэта даказалі лепшыя турысты і спартоўцы працоўных калектываў Глыбоцкага раёна: ГЭСа, Мясакамбіната, Дзвінскай эксперыментальнай лясной базы, УП ЖКГ, МКК, Глыбоцкага лясгаса, РУПСа, Камбікармовага завода, якія і падзялілі адпаведна з 1 па 8 месцы.



Алеся Казак (ЖКГ) у ролі «Кікімары».

## МНС інфармуе

**на 02.07.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 583;
Гібель людзей – 75, з іх 1 дзіця;
Урон – 2704,263 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 302.4 млн. руб.

# 1950-ы... Быў месяц жнівень

**У дзень свята вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў згадаем і тых, хто дайшоў да Берліна, а, вярнуўшыся дадому, беспадстаўна стаў «ворагам народу» і выкрасленым са спісу герояў.**

■ Ул. Скрабатун

**Чытачка нашай газеты, якая цяпер жыве ў ваколіцах Глыбокага, Алена Альфонсаўна (прозвішча прасіла не называць) даслала ў нашую газету допіс, які мы змяшчаем ніжэй. Аднак, перад публікацыяй, мы ўсё ж вырашылі сустрэцца з аўтаркай і ўдакладніць некаторыя дэталі...**

**Трагічная гісторыя!**

Альфонс Купрыянавіч Дрозд, жыхар вёскі Мышкі, што пад Варапаевым, служыў у польскім войску. Патрапіў у нямецкі палон. У 1942 годзе над ім злітаваўся ахоўнік-паляк: дапамог здзейсніць уцёк з-за калючага дроту. З дапамогай добрых людзей, перахоўваючыся удзень у хмызняках, так-сяк дайшоў-даехаў да Варапаева.

Нямецкая ж акупацыя! А тут зрабіў уцёк з палону. Такое акупанты не даравалі б. На людзі не паказваўся, нібыта ўсё яшчэ на вайне. У 1944 годзе, пасля вызвалення Беларусі, быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Дайшоў да Берліна, дзе 8 траўня быў моцна паранены. Ляжаў у розных шпіталях. Дамоў вярнуўся у 1946-м з узнагародамі.

У жніўні 1950-га года нядобрыя людзі, нейкія «бежанцы» са Смаленшчыны, якіх тут шмат тады аціралася ў пасляваенныя часы, захацелі завалодаць адным з жылых дамоў вялікай радні Драздоў. Законным шляхам – ніяк! Вось і напісалі лжывы паклёп, што Альфонс Дрозд перахоўвае дома зброю.

Далейшы ход падзеяў – вельмі прадказальны! МГБісты перавярнулі ўвесь дом, але зброі так і не знайшлі. Вайскоўцы з чырвонымі пагонамі паставілі ўсю радню да сцяны. – Дзе зброя? Зараз усіх перастраляем!

Паставілі і 7-гадовую Алену, аўтарку гэтага допісу ў «ВГ». Імітавалі расстрэл. Быў стрэл з пісталета. Яна і сястрычка страцілі прытомнасць... Упалі долу.

Удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, які браў удзел у штурме Берліна, надзелі на рукі кайданы. Суд. Антысавецкая агітацыя...10 год!



Альфонс Купрыянавіч Дрозд



Прокуратура
Рэспублікі Беларусь

ПРАКУРАТУРА
ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

г. Віцебск

20 03.95 № 13/302а-91

СПРАВКА
о признании потерпевшей (пострадавшей) от политических репрессий.

(Дрозд) Елена Альфонсовна, 1943 года рождения, уроженка д.Мышки Дуниловичского района Полоцкой области, согласно свидетельству о рождении II ПЛ № 334573, выданному 13 июня 1958 года Дуниловичским сельским Советом Поставского района, являющаяся дочерью Дрозд Альфонса Куприяновича, 1902 года рождения, репрессированного 9 октября 1950 года по приговору Полоцкого областного суда, по обвинению в антисоветской агитации (ст.72 УК БССР) к 10 годам лишения свободы, умер в местах лишения свободы 5 мая 1952 года, реабилитированного 23 июля 1991 года Витебским областным судом, на основании п.16 Положения о порядке восстановления прав граждан, пострадавших от репрессий в 20-80-х годах, утвержденного постановлением Верховного Совета Республики Беларусь от 21 декабря 1990 года, с последующими изменениями и дополнениями, признается потерпевшей (пострадавшей) от политических репрессий.



Старший помощник прокурора
Витебской области
советник юстиции И.И.Грабовский

6653—10000.

**Заўвага:** у дакуменце – памылка. Дакладны год нараджэння -- 1912-ы, а не 1902-і год.

Вайна, як гэта страшна! А нашы бацькі, браты, дзяды ішлі абараняць Радзіму. Некаторыя з іх не вярнуліся да сваіх хат. А вось майму татку пашчасціла. Ён пайшоў на вайну ў 30 год. Дайшоў да Берліна, браў Рэйхстаг і вось 8 мая быў паранены, перавозілі з аднаго шпіталя ў другі. У 1946 годзе, залячыўшы раны, вярнуўся дадому. Прывёз дзяржаўныя ўзнагароды. А ў 1950 годзе быў арыштаваны як «вораг народа». Судзілі, далі 10 год зняволення. Адправілі ў Башкірыю, г. Ішыкбай. Два гады пратрымаўся і памёр.

А мы, трое маленькіх дзяцей і дзве старэнькія маці, яго ўсё чакалі, а мамка наша нас суцяшала: "Вернецца наш татачка, толькі верце, вернецца." А ў ЗАГСе ўжо даўно ляжала пасведчанне аб смерці таты. Але ніхто не мог адважыцца сказаць нашай маме праўду. А потым нашага тату рэабілітавалі, як ні ў чым не вінаватага.

Вось будзем 3 ліпеня адзначаць вялікае свята, ушаноўваць ветэранаў вайны. А хоць бы адзін год, ці адзін раз хто-небудзь успомніў тых, хто сапраўды аддаваў сваё жыццё, сваё здароўе за Радзіму, а Радзіма ўзнагародзіла іх ГУЛАГам. Колькі загінула іх, ні ў чым не вінаватых? Колькі дзяцей-сірот засталося - па чыёй віне і за што вінаватых? Дык будзем жа мы людзьмі, хоць раз у жыцці ўспомнім тых, хто сапраўды бараніў нас ад ворага, а потым сам у сваёй Радзімы стаў "ворагам". А колькі гора і бед перанеслі іх дзеці – дзеці "ворагаў народа". Неяк была дзяржава злітаваўшыся над гэтымі дзецьмі "ворагаў народа". Нейкія былі ім дадзены ільготы. Але дэпутаты рашылі, што вельмі вялікую карысць атрымалі рэпрэсіраваныя. Вельмі ж хацелася б, каб гэтыя дэпутаты хоць раз у сваім жыцці пакаштавалі таго сірочага хлеба, які елі дзеці "ворагаў народа".

Прысвячаю свайму татку Драздзу Альфонсу Купрыянавічу гэтыя радкі.

Мы, дзеці твае, памятаем твой подзвіг, памятаем твае пісьмы, якія захоўваем і зараз. Выраслі мы, лічу, добрымі людзьмі, атрымалі вышэйшую адукацыю. Вытрымалі ўсе нягоды, усё гора і няшчасці. Працавалі, выйшлі на пенсію, а памяць пра нашага татачку ніколі не пакіне нас. Ганарымся табой і нашай мамачкай Дрозд Соф'яй Паўлаўнай, якая змагла адна нас падняць на ногі.

Надрукуеце ці не, не ведаю, але хацелася б, каб і другія расказалі пра такіх мужных людзей, якія не схілілі свае галовы перад сталінскімі рэпрэсіямі. А можа хто яшчэ застаўся жывы? Хай падзеліцца сваімі ўспамінамі.

# Крыўдна за мову

■ Павел Юргель

**У творы Кажэўнікава, калі не памыляюся, «Шчыт і меч» гаворыцца, што, каб не спаймалі шпіёна, трэба каб ён не толькі гаварыў на мове той дзяржавы, дзе ён на заданні, а каб ён нават думаў на мове гэтай дзяржавы.**

Дык вось, калі слухаеш ці чытаеш сёння беларускае слова, дык здаецца, што чалавек думае па-расейску, а спрабуе размаўляць пабеларуску.

І атрымліваецца толькі адно – ён зневажае і калечыць нашую мову.

Паслухаўшы такога чалавека, можна зрабіць толькі адны высновы, што ні пра навуку, ні пра мастацтва, ні пра палітыку на нашай мове размаўляць нельга.

Вось нядаўна на сайце было напісана пра нейкае злачынства, падрабязнасці пра якое «усталёўваліся» (г.зн. устанавливались).

І дзе не сустракаеш - усё усталёўваецца: падзеі, праграмы, абставіны. З мноства значэнняў і адценняў беларускай мовы возьмуць адно слова і тыркаюць яго, дзе трэба і дзе не трэба.

Вось паглядзім у слоўніку, як перакладаецца гэтае слова: «Устанавливаться» – усанаўлівацца, наладжвацца, складацца, складвацца, фарміравацца, выпрацоўвацца, ставіцца, вызначацца, выяўляцца, усталёўвацца.

Як бачым, у сэнсе абставін больш за ўсе падыходзіць словы «вызначацца» і «выяўляцца». А слова «ўсталёўвацца» менш за ўсё падыходзіць, яно нясе сэнс «становиться устойчивым». А цяпер толькі і чытаеш: абставіны ўсталёўваюцца. праграма ўсталёўваецца, сэнс усталёўваецца.

Возьмем другое слова «играть». Хтосьці пераклаў яго як «гуляць». І пайшло яно гуляць па тэкстах і прамовах. Палітычную ролю гуляюць, на сцэне гуляюць, і нават я два разы чуў па радыё: «Ен добра гуляў на баяне».

Паглядзім пераклад гэтага слова ў слоўніку: «Играть» - дзеці гуляюць, па сцяжынках гуляюць (а можна і шпацыраваць), вяселле гуляюць або спраўляюць, на баяне іграюць, ролю таксама іграюць, або выконваюць, у карты гуляюць, з веерам забаўляюцца, з агнём жартуюць, на нервах іграюць, брыльянт зіхаціць, пераліваецца, віно пеніцца, іскрыцца, славамі забаўляюцца, кроў бурліць. Вось колькі значэнняў мае рускае слова «Играть».

Так што наша мова не саступае «великому и могучему». Толькі трэба ўмець ёй карыстацца. І выкарыстоўваць словы па іх значэнні.

**Дапаўненне:** слоўнік, якім я карыстаўся, выдадзены Акадэміяй навук БССР, 1953 г., пад рэдакцыяй Коласа, Крапівы і Глебкі.



**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Як абараніць сябе ад злодзеяў

Па дадзеных статыстыкі, больш за 85 адсоткаў ад усіх злачынстваў, якія зарэгістраваныя па лініі крымінальнага вышуку, складаюць крадзяжы як асабістай маёмасці грамадзян, так і дзяржаўнай уласнасці. Яны – адзін з відаў злачынстваў, раскрыццё якіх патрабуе значных высілкаў. Кожны неўсталяваны злачынец, як вядома, імкнецца паўтарыць удалы крадзеж. Беспакаранасць разбэшчвае нават тых, хто ўзяў чужое без папярэдняй падрыхтоўкі і пэўнага намеру, з-за свавольства альбо таму, што рэчы (грошы, каштоўнасці, матэрыялы і гэтак далей) «дрэнна ляжалі» і да іх быў вольны доступ. Калі атрымалася бяскарна выкрасці чужое адзін раз, разважае злачынец, то чаму б не пажывіцца ў другі і... пяты-дзясяты?

Таму працаўнікі праваахоўных органаў надаюць вялікае значэнне папярэджанню і раскрыццю менавіта крадзяжоў.

За 2013 год на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ўзбуджана 67 крымінальных спраў за крадзеж маёмасці, з якіх 37 злачынстваў складаюць крадзяжы з кватэр, дамоў, крадзяжоў аўтамабіляў.

Як і ў папярэджанні крадзяжоў з прыватных дамоў і дач, так і ў прафілактыцы іх з аўтамабіляў усіх відаў уласнасці вялікую ролю грае асабістая засцярога.

На жаль, з-за недахопу ахоўваных аўтастаянак, гаражоў шматлікія аўтаўладальнікі пакідаюць свае асабістыя аўтамабілі ў дварах дамоў і проста на вуліцы. Гэта – наўпроставы «заклік» да патэнцыйных злачынцаў «не праходзіць міма», асабліва ўночы, што яны і робяць. Абакрасці злодзею машыну прасцей, калі яе гаспадар паскупіўся ўстанавіць ахоўную сігналізацыю.

Зразумела, лепш за ўсё, калі кожны асабісты аўтамабіль будзе стаяць ў гаражы альбо на ахоўваемай стаянцы. На жаль, іх не хапае.

Каб засцерагчы свой дом, кватэру, ці дачу ад «дамушнікаў», неабходна прытрымлівацца наступных правілаў:

- перад сыходам з дома, праверце, ці шчыльна зачыненыя балконныя дзверы, вокны і фортачкі.
- не пакідайце ключ ад кватэры перад дыванком, у паштовай скрыні, ці ў іншых месцах, дзе яго бэз цяжкасці, могуць знайсці староннія.
- з'язджаючы надоўга з горада, не паведамляйце староннім пра свае планаваныя паездкі, дамоўцеся са сваякамі ці з суседзямі забіраць з вашай паштовай скрыні допісы, газеты і часопісы, якія праляжалі ў скрыні дзень-два. Гэта – «зялёнае святло» дамушнікам

Абараніць ваша жыллё і маёмасць ад замахаў кватэрных злодзеяў дапамогуць і тэхнічныя сродкі: дзверы, краты на вокнах, замкі, сігналізацыя.

Уваходныя дзверы ўсталюйце падвойныя, якія адкрываюцца ў розныя бакі, лепшы варыянт – бескаробачныея дзверы таўшчынёй 50 мм, якія адкрываюцца вонкі. Край дзвярэй лепш ўмацаваць металічным вугалком, які прыкрывае зазор паміж створкай і каробкай. Але больш за ўсё мэтазгодна абсталяваць кватэру аўтаномнай сігналізацыяй, якая пры пранікненні ў кватэру выдае гукавы сігнал. Як паказвае практыка, у гэтым выпадку злачынец, як правіла, адмаўляецца ад сваіх намераў: тэхнічныя сродкі аховы – гэта самы непрыемны «сюрпрыз» для злодзея.

І яшчэ. Складзіце спіс нумароў каштоўных папер і рэчаў, якія захоўваюцца ў доме. Калі на якой-небудзь каштоўнай рэчы няма нумара, то на ёй самастойна пастаўце пазнаку! Гэта дазволіць у выпадку крадзяжу хутчэй вярнуць выкрадзенае і адшукаць злачынца.

Дэпартамент аховы МУС Рэспублікі Беларусь аказвае паслугі паводле складзеных дамоў па ахове жылых дамоў грамадзян, аб'ектаў усіх формаў уласнасці, у найкароткія тэрміны выканаюць працы па праектаванні, мантажу і наладцы ахоўнай і трывожнай сігналізацыі. Па ўзніклых пытаннях можаце звяртацца ў Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь па тэл.: **2-12-63.**

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Тэрыторыі Глыбоччыны, якія асоба ахоўваюцца

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна шмат унікальных прыродных месцаў, якія маюць асаблівы статус, які ахоўваецца дзяржавай, адмысловы рэжым іх утрымання і аховы, гаспадарчай і іншай дзейнасці. Усё гэта завецца прыроднымі тэрыторыямі, якія асоба ахоўваюцца.**

Прыродныя тэрыторыі, якія асоба ахоўваюцца, што гэта такое? Закон Рэспублікі Беларусь ад 20 кастрычніка 2004 года «Пра прыродныя тэрыторыі, якія асоба ахоўваюцца» вызначае як, участкі зямлі (уключаючы атмасфернае паветра над імі і нетры) з унікальнымі, эталоннымі ці іншымі каштоўнымі прыроднымі комплексамі і аб'ектамі, якія маюць асаблівае экалагічнае, навуковае, гісторыка-культурнае і іншае значэнне, вынятыя цалкам ці часткова з гаспадарчага звароту, у адносінах якіх усталяваны адмысловы рэжым аховы і выкарыстання.

Катэгорыі і віды прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца, вызначаюцца ў залежнасці ад асаблівасцяў прыродных комплексаў і аб'ектаў, якія падлягаюць адмысловай ахове.

Усталёўваюцца наступныя катэгорыі прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца:

- запаведнік,
- нацыянальны парк,
- заказнік,
- помнік прыроды,

Запаведнікі і нацыянальныя паркі з'яўляюцца прыроднымі тэрыторыямі рэспубліканскага значэння, якія асоба ахоўваюцца.

Заказнікі і помнікі прыроды могуць быць прыроднымі тэрыторыямі рэспубліканскага ці мясцовага значэння, якія асоба ахоўваюцца.

Усяго на тэрыторыі Віцебскай вобласці маецца 21 заказнік рэспубліканскага значэння, 71 заказнік мясцовага значэння і 54 помнікі прыроды

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна маецца таксама шэраг прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца, як рэспубліканскага, так і мясцовага значэння. Да заказнікаў рэспубліканскага значэння адносяцца гідралагічныя заказнікі возера **Доўгае** і **Белае**, якія абвешчаны прыроднымі тэрыторыямі, якія асоба ахоўваюцца, Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.12.2007 года № 1833 і перададзены пад ахову ДПУ «Галубоў сад». Да помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння адносіцца **Глыбоцкі дэндралагічны сад,** перададзены пад ахову ДЛГУ «Глыбоцкі дослєдны лясгас».

На тэрыторыі ўсіх прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца, усталёўваецца адмысловы рэжым іх функцыянавання, абмяжоўваецца ці цалкам забараняецца гаспадарчая дзейнасць, любая дзейнасць, якая пагражае іх захаванасці, забараняецца:

Вельмі часта пры правядзенні прыродаахоўных мерапрыемстваў, дагляде транспарту, дакументаў і іншых дзеяннях на прыродных тэрыторыях, якія асоба ахоўваюцца, супрацоўнікі, якія здзяйсняюць іх ахову, сутыкаюцца з неразуменнем грамадзян. Аднак, Частка 6 Закона «Пра прыродныя тэрыторыі, якія асоба ахоўваюцца» артыкул 43 дае права работнікам, якія ажыццяўляюць ахову прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца (ААПТ) :

– беспрашкодна наведваць любыя аб'екты, якія змешчаныя на ААПТ, з мэтай праверкі выканання заканадаўства Рэспублікі Беларусь пра ААПТ .

– правяраць у асобаў, якія знаходзяцца на ААПТ, наяўнасць дакументаў на права знаходжання на гэтых тэрыторыях.

– праводзіць у межах ААПТ і іх ахоўных зон нагляд транспартных сродкаў і асабістых рэчаў.

– затрымоўваць у межах ААПТ і іх ахоўных зон асобаў, якія парушылі заканадаўства РБ «Пра ААПТ», і дастаўляць іх у праваахоўныя органы.

– канфіскоўваць у парушальнікаў незаконна здабытую на ААПТ здабычу і прылады яе здабычы.

– складаць адміністрацыйныя пратаколы на парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Шматлікія грамадзяне парушаюць рэжым аховы прыродных тэрыторый, якія асоба ахоўваюцца, але, як правіла, з-за простага няведання іх статусу, бо інфармацыі пра такія месцы, рэжыме іх утрымання вельмі мала. Так, 8 чэрвеня 2013 года каля 14 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Доўгае затрыманы жыхар г. Мінска Мядзведскі Вячаслаў, які ажыццяўляў здабычу рыбы з дапамогай падводнай стрэльбы. Паводле заканадаўства, здабыча рыбы з падводнай стрэльбай на возеры Доўгае забаронена. Парушальнік аштрафаваны на 1 500 000 рублёў, стрэльба для падводнага палявання канфіскаваная.

23 чэрвеня на гэтым жа возеры затрыманы жыхар Глыбоцкага раёна, таксама за падводнае паляванне, вынік, штраф 1 млн. рублёў і канфіскацыя стрэльбы. 29 чэрвеня група адпачываючых грамадзян, жыхароў г. Мінска, знаходзячыхся на возеры Доўгае, ссеклі 4 дрэвы алешыны, далейшыя іх незаконныя дзеянні спынілі інспектары. Вінаваты ў незаконнай парубцы жыхар г. Мінска грамадзянін Н. прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 1 млн. рублёў і пакрыцця прычыненай шкоды.

На тэрыторыі раёна шмат прыгожых месцаў і ўсе яны патрабуюць асцярожных да сябе адносінаў, незалежна ад іх катэгорыі ці статусу. Толькі агульнымі высілкамі і асцярожнымі адносінамі мы зможам захаваць нашу першародную прыроду для нашчадкаў.




# Сёлета рыбагаспадарчыя арганізацыі Беларусі павінны рэалізаваць больш як 20,6 тыс. тон рыбы

**Рыбагаспадарчыя арганізацыі Беларусі ў 2013 годзе павінны рэалізаваць 20,62 тыс. тон рыбы. Гэта прадугледжана Дзяржпраграмай развіцця рыбагаспадарчай дзейнасці на 2011-2015 гады. У першым квартале 2013 года ў Беларусі рэалізавана 3 тыс. тон рыбы, а да 2015 года гэты паказчык павінен скласці 25,21 тыс. тон. Такія даныя БелаПАН паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання напярэдадні Сусветнага дня рыбалоўства, які адзначаецца 27 чэрвеня.**

Паводле даных Белстата, за 2012 год арганізацыямі, якія ажыццяўляюць рыбагаспадарчую дзейнасць, рэалізавана 12,3 тыс. тон рыбы. Насельніцтву прададзена 6,5 тыс. тон рыбы, гандлёвым арганізацыям — 4 тыс. тон, падсобным вытворчасцям сваёй арганізацыі – 1,2 тыс. тон, арганізацыям, якія ажыццяўляюць перапрацоўку рыбы, — 0,4 тыс. тон.

Прамысловы ўлоў рыбы ў 2012 годзе склаў 17,6 тыс. тон. Пры гэтым найбольшы аб'ём рыбы (95% ад агульнага ўлову) вылаўлены ў штучных вадаёмах.

Асноўную долю ва ўлове рыбы ў штучных вадаёмах складае карп. У 2012 годзе яго вылаўлена 11,6 тыс. тон, ці 66% ад агульнага ўлову рыбы. Акрамя таго, вылаўлена 1,8 тыс. тон таўсталобіка і 1 тыс. тон амура. Асятровых вылаўлена 48,5 тоны, ласасёвых — 43,7 тоны, сомавых — 40,1 тоны.

Па аб'ёме прамысловага ўлову рыбы лідзіруюць Брэсцкая і Мінская вобласці, на долю якіх прыходзіцца 71% рэспубліканскага прамысловага ўлову рыбы.

У 2012 годзе ў Беларусі рыбагаспадарчую дзейнасць ажыццяўлялі 306 арганізацый. У іх карыстанні знаходзілася 64,4 тыс. га рыбалоўных аб'ектаў, якія выкарыстоўваліся для вядзення рыбалоўнай гаспадаркі на правах арэнды, і 32,7 тыс. га — на правах бязвыплатнага карыстання. Больш як 19 тыс. га займала плошча сажалак, якія выкарыстоўваюцца для гадоўлі таварнай рыбы.


Сцерлядзь запускаюць у р. Прыпяць.

*Марына Носава, БелаПАН.*



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»







## ПАНЯДЗЕЛАК, 8 ліпеня



**06.00**, **07.20**, **08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.00** Комедийная мелодрама **«Любовь с акцентом»** (Россия).
**12.10** Криминальный триллер **«Матадор»** (США – Германия).
**13.50** Журналистское расследование.
**14.15** Вокруг планеты.
**15.15**, **18.40** Новости региона.
**15.25** Док.сериал «Азбука хорошего самочувствия» (Австралия).
**16.00** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Самые завидные женихи и невесты мира».
**16.55** «Все песни для любимой». Концерт
**19.20** Специальный репортаж АТН.
**19.40**, **23.35** "Зона Х".
**19.55** **«Земский доктор. Продолжение»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Комедийный боевик **«Агент 117: шпионское гнездо»**
**00.10** День спорта.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Закрытая школа».**
**12.10** Премьера. **«Женский доктор 2».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**14.00** «Модный приговор».
**15.00** «Двух судеб линия одна».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Петр Шумов. Черно-белая судьба».
**18.50** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Лист ожидания».**
**22.15** **«Тюдоры».**
**00.25** Фильм **«Слишком крута для тебя».**
**02.25-02.55** Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **"Майор Ветров"** (Россия – Беларусь). 1-я серия.
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Комедия **«Купальская ночь»**



**12.20** Теннис. Уимблдон. Обзор.
**13.20** Военно-историческая киноповесть **«Руины стреляют»** («Беларусьфильм»). 1-я серия.
**14.40** Под грифом «Известные».
**15.15** Мистическая фантазия «Вий « (СССР).
**16.45** Белорусское времечко.
**17.55** **"Майор Ветров"** (Россия – Беларусь). 1-я серия.
**19.00** **«Люди Шпака»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Государственная граница».** Фильм шестой «За порогом победы» 1-я серия.
**22.55** Док.сериал «Будь в тонусе» (Австралия).
**23.30** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.20** «Смотреть всем!».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** **«Слово женщине».** Сериал.
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Женщины ХХ века» с Элеонорой Езерской.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** СТВ представляет: «Звездный ринг».
**15.30** «Пища богов».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Обманутые наукой».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кино»: **«ДОРИАН ГРЕЙ».** Великобритания-Канада, 2001г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.45** **«Маршрут».** Сериал.



**7:00** Размовы эксперта
**7:15** Побач з намі
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:40** Без рэтушы: «Быць беларусам, быць аптымістам», рэпартаж
**8:05** «Таямніцы Ватыкану» дак. серыял: 5 серыя
**8:35** «Усмешка на вуснах ды слёзы ў вачах» дак. фільм
**9:35** Дак.гадзіна: «Лікёра-гарэлачны завод»
**10:30** Еўропа сёння
**11:00** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Чарцюк з сёмага класу»**: 6 серыя
**17:50** Моўнік
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** **«Час гонару»**: 42 серыя
**18:50** Еўропа сёння
**19:20** "Як пошуг маланкі», рэпартаж, рэж. Валерый Мазынскі, 2010 г., Беларусь
**19:50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**20:05** Хто ёсць кім?: «Станіслаў Шушкевіч»
**20:20** Два на два (тэледыскусія)
**20:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**22:00** Аб'ектыў
**22:25** Студыя «Белсат»
**23:15** Побач з намі
**0:00** **«Наўскач»**
**1:00** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэр»**: 11 серыя
**2:05** Размовы эксперта

